# ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

№ 2

Трыбуна літаратурнага аб'еднання

## Лепш я хацеў-бы

Ужо лепш я хацеў-бы ў гнілых лахманах,
Як бяздомны бадзяга век блукаць без цэлі,
Ці закованы ў страшных, як смерць кайданах
Правесці ўсё жыццё на турэмнай пасцелі;
Ужо лепш я хацеў-бы пайсці жабраваць,
Ад сяла да сяла з торбай лазіць праз поле
І ад голаду-холаду плакаць, стагнаць
І не бачыць надзеі на лепшую долю;
Ужо лепш я хацеў-бы нырнуць дзесь пад лёд —
Утапіцца, ці куляй пакончыць з сабою —
Ніж запляміць айчыну і родны народ
Злом і брудам ілжы для багацця, спакою.

ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ

## ВЯСНА

Надаела зіма нам усім,
Непрыкметна, звычайна зусім
Так, як з году на год
Тае снег, тае лёд,
Прыдуць урэшце спякоты, дажджы.

А тым часам у сённешні дзень
Яшчэ ходзіць зімовы злы цень.
Але сонца ўгары
Ужо чакае пары,
Каб даць волю праменням сваім.

Цёплы вецер дыхнуў, праляцеў
Над зямлёю туды і сюды,
Застагнаў стары бор,
Як асілакаў хор,
Затрашчалі на рэках ільды.

Промень сонца адбіўся ў вадзе
І ў далёкі прастор паляцеў
Ніткай золата ён
Паімчаўся, пайшоў
Штораз вышэй, да хмараў, да зор.

Над зямлёю ўжо птушкі ляцяць
Дружным хорам вясёла крычаць:
«Мы з далёкай зямлі
Прыляцелі сюды,
Мы матулі - вясны пасланцы».

Яшчэ шэрая вокал зямля,
Свежых лісцяў ні кветак няма,
Толькі мокры пясок
Пакрыў куст - верасок,
Што мінуўшаю восенню цвіў.

І ў амшалым адвечным бары
Цёплы вецер даўно ўжо шуміць,
Вераском калыхнуў,
У дугу траўку загнуў,
Слёзы радасці з голяк змахнуў

МІКОЛА КРАСОЎСКІ

## Буслы прыляцелі

Буслы вярнуліся на радзіму
З спякотнага Егіпта
У сваю буслiную хаціну,
Што зорамі пакрыта.

— Буслы, буслы! — сустрэлі дзеці
І наўздагонкі як той вецер...
Бо кажуць гэтак людзі,
Што хто лятучых буслоў стрэціць,
Як вецер лёгкім будзе.

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

## Надзея

Не кажы, што надзеі няма,
Што і мэта існення разбіта.
Паглядзі! Агляніся ўвакруг
Як шуміць, як каласіцца жыта...

Ці тым шумам сваім маладым
Не гаворыць, як стан яе моцны...
Што не схіліць яе галавы,
Ані град, ані віхар поўночны.

А мо' пудзіць цябе што трава...
Што пусты яшчэ колас зялёны?
Пачакай! Дай яму дарасці.
Ён сагнецца зярнём прапаўнёны.

Вокам кінь ў далёкі працяг,
Усё яна, ды яна каласіцца.
Думна выглядзіць у рысах сваіх,
Стройным станам сваім залаціцца.

А зраслась яна моцна з зямлёй,
З глебай роднай карэннямі звілась.
І каб вырваць яе, заглушыць,
Моц такая яшчэ не зрадзілась.

Выкінь прэч з галавы гэты сум.
Грэшыш цяжка сам відзючы гэта.
Напудзіла цябе знаць зіма?..
Усё вярне табе гойнае лета.

МІКОЛА БУЦЫЛІН

*Словы і муз. М. Валкавыцкага.*

## ДОЖДЖ



Дождж марусіць,
Па ваконцы сцякае.
Я на капельку гляджу,
Сэрца з суму замірае.
І чаму?
І нашто?
Я сумую так моцна сумую.
Ох, як хацелася-б мне
Гэтай капелькай быць.
І так па вакне
Разам з дожджыкам плыць.

## Літаратурны семінар

12 і 13 ліпеня г. г. у Беластоку адбыўся двухднёвы семінар для маладых літаратараў, згуртаваных у літаратурным аб'яднанні пры рэдакцыі «Ніва».

На семінары былі выслуханы лекцыі на тэму: «Мова мастацкіх твораў» (праф. Бірыла) і «Асаблівасці развіцця беларускай літаратуры» (праф. Тарасаў), а таксама абмеркаваны творы ўдзельнікаў семінара.

Васіль Баршчэўскі.

## Дужы Ясё

Славутая была некалі Носкава карчма. І пабудавана яна ў вельмі выгадным для носкавых інтарэсаў месцы. Навокал густа параскідаліся шматлікія вёскі — Бандары, Багнюкі, Рыбакі, Рудня, Боўтрыкі, Лука, Слабодка, жыхары якіх былі штодзённымі наведвальнікамі носкавай карчмы. Тады яшчэ не было ў вёсках крамаў. А ў носкавай карчме — чаго толькі душа твая захоча. Ад тоненькай іголачкі аж па пукаты гарнец гарэлкі — усяго тут было поўна.

Ля самай карчмы праходзіў шырокі, добра праезджаны гасцінец. У адзін бок ён вёў у Нараўку, адкуль рукой падаць да Гайнаўкі і Белавежы, у другі бок, праз пераезд на рацэ Нарве, у Бандары, дзе раздвойваўся, налева ідучы праз Міхалова ў Беласток, а направа — праз Ялоўку ў Свіслач, Валкавыск і недзе далей у глыб Беларусі, мо да самага Мінска...

Па гэтым гасцінцы ў розных напрамках штодзень паўзлі сялянскія фурманкі. А носкава карчма так і маніла, так і цягнула ў свае шырокія дзверы. Як-жа тады не зайсці, як не паспрабаваць носкавага піва, як не кульнуць гарнец гарэлкі, ды не прыкусіць смакавітым селядцом з цыбулькай, а то і кругам падсушанай, прыемна пахнучай часначком ды гарчыцай каўбаскі. Аднак найбольшы рух у Носкавай карчме быў на весну, калі узбураная цёплымі праменнямі сонца рака рвала тоўстыя аковы ільдоў і, пераліваючыся па ім злоснымі, магутнымі хвалямі, крышыла на дробныя кавалачкі, ды гнала недзе ў ніз да Тыкаціна і далей, аж да самага шырокага Буга.

У такі час стары Носка ў круглай ярмолачцы, якой ён, мабыць, ніколі не скідаў са сваёй пасівелай галавы, выходзіў на парог карчмы, ды, зрабіўшы над паморшчаным ілбом казырок з шырокай далоні, прыжмурыўшы вочы, узіраўся ў далечыню ўзбуранай ракі.

— Рушыла наканец, — шаптаў ён, радасна ўсміхаючыся цёпламу сонцу.

— Хутка пойдуць плыты. Будзе гешэфт. Будзе вялікі гешэфт. Трымайся Носка! — падбадзёрваў сябе карчмар.

Не памыляўся стары Носка. Не паспелі яшчэ на рацэ сплысці ледзяныя крыгі, а ўжо ўслед за імі працавітыя, ды не менш крыклівыя арэльшчыкі гналі доўгія плыты стройнага белавежскага дрэва.

— Наляж на адбежак! Прытрымай цалям! — далёка несліся па рацэ воклічы арэльшчыкаў.

Большасць арэльшчыкаў — гэта тутэйшыя сяляне, жыхары наднараўскіх вёсак. Аднак нярэдка тут сустрэнеш і далёкіх, — панурых лясных людзей з глыбіні самай пушчы, а часам і худых, змораных цяжкай працай і спрадвечным недахопам ежы, — палешукоў.

Цяжкая праца арэльшчыкшау. Не кожны здолее доўга вытрымаць у пякуча - халоднай вадзе. Прастуда, сухоты і смерць — гэта неадлучныя спадарожнікі ў іх цяжкім жыцці. Не з роскашы ішлі на арэльку сяляне. На прадвесні дзеткам іх хацелася хлеба. А купцы за арэльку плацілі нядрэнна. Таму не даводзілася арэльшчыкам лічыцца са сваім здароўем.

Дагнаўшы плыты да пераезду, што паміж карчмой і Бандарамі, арэльшчыкі затрымоўваліся. Так ужо здаўна вялося, што некалькідзённы адпачынак арэльшчыкі рабілі тут. Прымацаваўшы плыты ля берагу, яны гаманлівымі групамі накіроўваліся ў карчму. Трэба-ж перадыхнуць, развесяліць нечым сумныя душы. А дзе-ж гэта лепш зрабіць, як не ў носкавай карчме?

Людзі прагныя вясёлай гульні і выпіўкі, накіроўваліся ў носкаву карчму. Больш спакойныя і ашчадныя ў нохімаву, што стаяла насупраць носкавай, далей ад гасцінца. Аднак тых першых было заўсёды больш. Ды і куды там худому, згорбленаму, ды вечна засморканаму Нохіму раўняцца з Носкам! У яго-ж, калі не лічыць старога таннага піва, ды прыпсутых селядцоў, амаль нічога няма для арэльшчыкаў. Іншая справа ў Носкі. Прасторны пакой застаўлены шырокімі сталамі і гарэлкі, піва — хоць заліся і закускі хапае, абы толькі грошы, а калі іх не хопіць, то Носка пойдзе чалавеку насустрач, ды вельмі ахвотна прыме ў залог вопратку, а то і абутак, калі не зусім падношаны.

— Грунт, то гешэфт, абы рух, — кажа Носка.

А што найважнейшае ў Носкі, дык гэта здаровая як рэпа, ды гібкая, як арэльская леска, дачка Рузя. Калі, падвыпіўшы арэльшчык не зусім ветліва прыложыць сваю здаравяцкую руку да рузінага пругкага сцягенца, яна не пакрыўдзіцца за гэта ніколі. Ну што-ж, грунт то гешэфт, як кажа тата Носка.

*(Працяг на стар. 6)*



